

магілёўскі

# Выбар

№ 22
Снежань
2012 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна


# ШКЛОЎСКІЯ ПАРАДОКСЫ

***Працаўнікі шклоўскіх палёў з гонарам нясуць па краіне сцяг перамог яшчэ з савецкіх часоў (быў перыяд заняпаду, калі раёнам кіраваў выбітны старшыня райвыканкама Генадзь Лаўранкоў, за што яго потым некалькі разоў павышалі ў пасадзе. Зараз раёнам кіруе сп. Бойка, які таксама спачатку працы вельмі добра ўзяўся за справу, але што атрымоўваецца зараз, паспрабуем паглядзець з больш крытычнага боку) і ў гэтым годзе добрую традыцыю прадоўжылі.***




Усяго ў Шклоўскім раёне сабрана 141 тысяча тон зерня пры сярэдняй ураджайнасці 61,5 ц/га, што і з'яўляецца лепшым паказчыкам у Магілёўскай вобласці. Безумоўна, на "рэкорды" сп. Іванова ў яго бытнасць галоўным тварам раёна гэтыя лічбы не цягнуць, але ж на зернатаках з'явілася зерне і ўжо за гэта можна дзякаваць мясцоваму кіраўніцтву за клопат аб лёсе сельскай гаспадаркі, а не толькі за захаванне статыстычнага твару перад вышэй стаячым кіраўніцтвам.

Пры гэтым неабходна адзначыць, што толькі тры гаспадаркі Шклоўшчыны не пераадолелі рубеж ураджайнасці зерневых культур у 50 ц/га, што таксама трэба лічыць дасягненнем раёна. Па выніках 2012 года трэба сказаць "малайцы" ўсім хлебаробам Шклоўшчыны.

Не трэба забываць і аб поспехах жывёлаводаў, бо якраз малако і малочная прадукцыя займаюць палову ад агульнага аб'ёму экспарту раёна і забяспечваюць паступленне больш 30 млн. даляраў США ў год на разліковыя рахункі перапрацоўшчыкаў, а праз гэта і ствараецца неабходная фінансавая база для развіцця селькай гаспадаркі. Ёсць свае набыткі ў бульбаводаў і ільновытворцаў, нарыхтоўшчыкаў кармоў, даярак і даглядчыкаў буйной рагатай жывёлы, свіна- і птушкаводаў. На тэрыторыі раёна з'явіліся сады прамысловага тыпу. І гэта вельмі добра.

Але ж, давайце паглядзім, ці ўсе задзейнічаны рэзервы ў вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі і што можна яшчэ зрабіць для яе далейшага нарошчвання. На жаль, мы не

(Пачатак. Працяг на стар. 2)

## КУДЫ Ў ААТ "НОВАЯ ДРУЦЬ" ДЗЯВАЮЦЬ ГНІЛУЮ БУЛЬБУ?

У грамадскую прыёмную "Грамадзянскай дамовы" у Бялыніцкім раёне паступіў званок ад жыхара аграгарадка Цяхцін гэтага раёна.

У сваім тэлефанаванні жыхар распавёў пра тое, што быццам бы ў мясцовай гаспадарцы ААТ "Новая Друць" псуецца шмат бульбы і яе вывозяць у лес і скідваюць там у яму. Ён папрасіў супрацоўнікаў грамадскай прыёмнай нейкім чынам адрэагаваць на факты безгаспадарчасці ў "Новай Друці".

\- Каб праверыць гэту інфармацыю, 29 лістапада мы сумесна з журналістамі тэлеканала "Белсат" выехалі ў аграгарадок Цяхцін, дзе знаходзіцца крухмальны завод і бульбасховішчы ААТ "Новая Друць", - распавядае бялыніцкі журналіст Барыс Вырвіч. – Мы здолелі наведаць бульбасховішча і паразмаўляць з працуючымі там людзьмі, пакуль начальнік аховы ААТ "Новая Друць" не выдаліў нас з яго тэрыторыі пад пагрозай выклікаць міліцыю.

Інфармацыя пра тое, што вельмі шмат бульбы псуецца падчас захоўвання, пацвердзілася, рабочыя таксама распавялі аб тым, што яе даводзіцца перабіраць па некалькі разоў. З іншага боку, ніхто гнілую перабраную бульбу у лес не вывозіць, яе адпраўляюць для далейшай перапрацоўкі на крухмальны завод ААТ "Новая Друць". Я не з'яўляюсь спецыялістам у галіне перапрацоўкі бульбы на крухмал, таму не магу адказаць на пытанне, ці магчыма

(Заканчэнне на стар. 3)

# ШКЛОЎСКІЯ ПАРАДОКСЫ

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

маем доступу да статыстычных дадзеных, бо статкамітэт у сваім адмысловым распараджэнні (так і хочацца сказаць “тупым”, бо для чаго хаваць наяўныя поспехі, калі яны ёсць), забараніў нават дзяржаўным службоўцам доступ да першаснай статыстычнай справаздачы. Дзікунства, бо ніякія сакрэты пры гэтым карыстальнікамі інфармацыяй не выведываюцца, бо іх там насамрэч і няма ў прынцыпе. Ёсць гульня ў лічбы, але пра гэта ўсе і так ведаюць, і рабіць з гэтага сакрэт - толькі сабе шкодзіць.

Ці быў на шклоўскіх палях вырашчаны амаль рэкордны ураджай, можна толькі здагадвацца, але што такое 50 ц/га зерня спецыялісты ведаюць, і там, дзе ён цягне не больш чым на 20 ц/га, ніяк не зробіш больш прыстойную лічбу. Калі не маеш падставу ў выглядзе загаду зверху і магчымасць статыстычнай маніпуляцыі.

Дык вось, мы не маем магчымасці адсочваць становішча (ды і не наша гэта справа) на падставе першаснай інфармацыі (а краіна ў нас адкрытая і паказчыкі “чэсныя”), але вочы яшчэ бачаць той вэрхал, які дзе-нідзе пракідваецца ў гаспадарках раёна.

Што ў нас робіцца на палях, дзе вырошчваюцца рэкордныя ўраджаі ў 50-70 ц/га? Трэба сказаць, што агульнае ўражанне ад шклоўскіх палёў прыемнае. Гэта заслуга цэлага атрада кіраўнікоў, спецыялістаў, механізатараў і паляводаў. Але ж ёсць і хібы, якія трэба выпраўляць. Многія з іх на вока не бачны - выкананне сістэмы севазвароту, якасць насення і ўнясення тукаў, хімічнай апрацоўкі палёў, якасць сяўбы і ўборкі многіх культур, дозы ўгнаенняў і нормы высеву, але ўсё гэта потым “вылазіць” у розных праявах і характарызуе агратэхнічную культуру ў цэлым.

А ёсць і відавочныя парушэнні не толькі тэхналогіі, якія наогул носяць характар безалабернасці і, нават, злачыннасці, бо на сельскую гаспадарку дзяржава траціць вялікія грошы, якія не даходзяць да кішэняў шэраговых грамадзян. Так што ў кіраўнікоў і спецыялістаў сельскай гаспадаркі яшчэ і сацыяльная адказнасць за якасць сваёй працы.

Але, бадай, усе “рэкорды” па безгаспадарчасці ў Шклоўскім раёне ў 2012 годзе пабіла кукуруза (насамрэч, адносіны да гэтай цудоўнай культуры), якую можна смела называць “снежнай каралевай” шклоўскіх палёў.

Сотні гектараў кукурузы пабылі пад снегам, не спалі спакойна аграномы, але ж зараз не спяць і ветурачы, бо плесень на пачатках кукурузы з’явілась ужо ў канцы верасня. А гэта адзначае, што цягаць ім не перацягаць трупы жывёл на магільнікі. І зусім не па сваёй віне…

Але ж, крытыкуй і прапаноўвай. У прыватнасці, у сельскай гаспадарцы справы ішлі б намнога лепей, калі б мясцовыя ўлады не паддаліся ў свой час хворым думкам з Мінску і не пачалі барацьбу з фермерамі і асабістымі гаспадаркамі сялян. У выніку ад шырокага фермерскага руху на Шклоўшчыне, які напачатку і ў сярэдзіне 90-х гадоў быў прыкладам для ўсёй краіны, фермераў засталося толькі 30% ад першапачатковай іх колькасці. Магчыма, яшчэ і таму, што калісьці будучы Прэзідэнт сам шчыраваў на гэтай ніве і на сваім вопыце пазнаў усе цяжкасці фермерства, таму і спрабуе абараніць беларусаў ад безнадзейнай справы. Больш разумнага тлумачэння гэтаму абсурду – абсурду барацьбы з перспектывай грамадства, якая напрацавана цывілізаваным светам ужо стагоддзямі, на мой погляд, няма. А можа з вялікага розуму, бо Лідэр Улады даўно ўжо выкінуў з галавы гэты цывілізаваны свет і ўпэўнена ідзе сваім шляхам. На жаль, і народ



за сабой цягне, толькі вось у гэтага народа-бедалагі няма тых грошай, як у Сям’і, каб шукаць шчасця эксперыментальнымі шляхамі.

Што тычыцца асабістых гаспадарак, то іх жаласлівы выгляд нават пацвярджае прыдворная статыстыка, якая заўсёды бадзёра канстатуе чарговыя поспехі беларускіх аграрыяў. Дык вось, з году ў год паказчыкі вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ў асабістых гаспадарках зніжаюцца, зніжаецца і закуп дзяржавай малака і мяса ў прыватным сектары. З пачатку гэтага года зніжкі па закупам малака ў раёне склалі 2,8%, мяса – 9,4%. Затое растуць паказчыкі ў грамадскім сектары на дзесяткі адсоткаў і так ужо колькі гадоў запар. Вось толькі заробкі сялян чамусці гэты трэнд не падтрымліваюць і можна нават прыйсці да высновы, што прадукцыйнасць працы беларускіх сялян неймаверна высокая, а заробкі па тэмпах намнога ад яе адсталі, што і можа характаразаваць высокі эканамічны ўзровень “калгаснага” гаспадарання.

На самай справе, у сельскай гаспадарцы Беларусі, у прыватнасці і ў Шкловскім раёне, ідуць незваротныя працэсы, якія могуць прывесці да татальнага дэфіцыту кваліфікаванай працоўнай сілы. Выратоўваць становішча будуць неабыякавыя пенсіянеры і не вельмі дысцыплінаваныя выканаўцы, ды процьма сквапных чыноўнікаў з іх “адсоткамі росту”.

Прысядзібныя надзелы грамадзян у шмат якіх аграгарадках,

*(Заканч. на стар. 3)*

# ПО КАРТОФЕЛЮ БЕЛОРУСЫ ВПЕРЕДИ ПЛАНЕТЫ ВСЕЙ,

## но не будем спешить радоваться

***После подведения итогов нынешней уборочной, статистические органы подсчитали, что в Беларуси произведено 800 кг картофеля на душу населения. По этому показателю наша страна заняла первое место в мире. Это приятно, ведь первые места всегда почётны. Или всё-таки не всегда?***

Начнём с того, что признанным лидером по производству картофеля на душу населения Беларусь являлась и в прошлые годы. И, если по-честному, то нынешнее достижение лучше назвать шагом назад. Например, в 2007-2008 гг. производство превысило 900 кг на ту же самую душу. А населения тогда было гораздо больше, чем в 2012 году.




Что касается валового производства, то учёные-аграрники хорошо знают, что рейтинг мировых картофелепроизводителей возглавляют Китай, Индия, Россия, США, Украина. В первой десятке Беларусь ещё держится, но последним по-настоящему выдающимся годом для нас был 1993 год, когда было выращено 11 с половиной миллионов тонн. Сегодня наши достижения составляют 8-9 млн. тонн картофеля в год. Ещё хуже положение с экспортом, ведь, несмотря на 1-е место, Беларусь не входит даже в двадцатку мировых экспортёров. Большинство стран выращивают картошку на продажу, мы же — преимущественно для внутреннего потребления.

Бесспорно, 800 кг на душу населения — это значительный объём производства. Парадоксальность ситуации заключается в том, что из-за этого ещё больше укрепляется наш имидж,

*(Окончание на стр. 8)*

# ШКЛОЎСКІЯ ПАРАДОКСЫ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1-2)*

не кажучы ўжо пра звычайныя вёскі, проста зарастаюць пустазеллем. Але ж у свой час гэта вельмі ўрадлівая, без сумневу, зямля давала ў народную (ці дзяржаўную) скарбонку свой унёсак, які вымяраўся да 40% ад валавага прадукту сельскай гаспадаркі. Сёння ж у вясковай краме мы бачым у продажы малочныя прадукты, мясныя вырабы, сала, нават гуркі і памідоры. Дакаціліся, дапрацаваліся, дакіраваліся - сучасны беларускі вясковец з вытворца самага таннага харчавання ператварыўся ў сталага спажыўца гарадскога тыпу, пераклаўшы клопат аб фарміраванні асабістай харчовай бяспекі на "комплексы".

Чым не праблема для раёна і ўсёй краіны, праблема, якая яшчэ адгукнецца і дэфіцытам харчавання, і падзеннем яго якасці, і высокім коштам для спажыўца.

Дарэчы, наконт кваліфікацыі сучасных працаўнікоў, асабліва жывёлагадоўчых комплексаў, насычаных сучасным абсталяваннем, таксама ёсць вялікі сумнеў. Тое, што паказчыкі па надоям малака з пачатку года ў Шклоўскім раёне зменшыліся болей чым на 200кг, "заслуга" і вясковых "кулібіных", якія спрабуюць інавацыйны прадукт у выглядзе сучасных тэхналогій і даільнага абсталявання прыстасаваць да свайго разумення і вопыту. Таму і прастойваюць часам суткамі тэхналагічныя лініі малочна-таварных комплексаў, а даяркі вымушаны праяўляць вынаходлівасць у справе выкання сваіх працоўных абавязкаў.

**Пётр Мігурскі**

# КУДЫ Ў ААТ "НОВАЯ ДРУЦЬ" ДЗЯВАЮЦЬ ГНІЛУЮ БУЛЬБУ?

*(Заканч. Пачатак на стар. )*

атрымаць з гнілой бульбы хоць нейкую якасную прадукцыю. Гэта ўжо пытанне хутчэй да спецыялістаў разнастайных санітарных службаў, якія павінны кантраляваць выраб харчовай і тэхнічнай прадукцыі. І мы яго перад імі абавязкова ўздымем.

Да 2010 года ААТ "Новая Друць" з'яўлялась гаспадаркай Нацыянальнага Банка Рэспублікі Беларусь. Зараз гаспадарка ўваходзіць у склад агракамбіната "Мачулішчы".

**Сяргей Семяновіч**

# РАМАНТУЕМ-ПАСКУДЗІМ

***Да-а! Без ЁПРСТ у нашым паўсядзённым жыцці - ну ніяк не абыйсціся. Так ужо ў нас павялося: добрае надоўга не прыжываецца. Абавязкова трэба напаскудзіць. І абавязкова – людзям пад самы нос…***

***У сябе дома ніхто не стаў бы псаваць тое, што добраўпарадкавана. Чаму ж у “грамадзкім доме”такое магчыма?***

***Увогуле, калі арганізацыя распачынае будоўлю ці той самы рамонт будыніны, то спачатку робяць пад’езды да аб’екту. Ва ўсялякім разе ў цывілізаваным свеце пракыкуецца , менавіта, так. А тут такое ўражанне, як быццам людзі ў спецвопратцы з’явіліся з іншай планеты. Для іх не зразумела, што такое культура вытворчасці, захоўванне чысціні…***

Вуліца Калініна ў Чэрыкаве паступова-паступова набывае прыстойны выгляд. Наколькі гэта магчыма ў нашых ўмовах і з нашым кашальком. І тым ня менш. Калі раней па гэтай вуліцы праехаць на аўто можна было толькі выпісваючы фігуры вышэйшага пілатажу і падскокваючы ўверх ды яшчэ раз ўверх, то зараз за рулём лімузіна па гэтай частцы гораду можна праехаць з задавальненнем і без праблем. Капітальна рамантуюцца дамы-двухправярхоўкі пабудовы канца 60-х пачатку 70-х гадоў: мяняецца дах, ставяцца шклопакеты, уцяпляюцца блокамі ПВХ сцены, ну і, безумоўна, фарбуюцца, наколькі дазваляе фантазія нашых мясцовых дызайнераў. У цэлым, будзем казаць, някепска атрымоўваецца ў параўнанні з тым, што было раней (усё пазнаецца, як вядома, у параўнанні). Людзі задаволеныя, бо ў кватэрах, як яны кажуць, зараз стала нашмат цяплей.




Нядрэнна вуліца асветлена. Іншая справа, у які час уключаецца асвятленне. Але будзем спадзявацца, што і гэтая праблема паступова вырашыцца ў лепшы бок.

Вось і зараз узяліся за рамонт яшчэ аднаго, забытага і мясцовым чынавенствам (на доўгі час), і Богам, дома № 6 па гэтай вуліцы. Людзі нацярпеліся нязручнасцяў, жывучы ў гэтым збудаванні больш за тры дзесяткі год. І рамонт - гэта ім узнагарода за іхняе доўгае і мужнае цярпенне. Здавалася б, радавацца трэба. Але, як пяецца ў той песні: “Разам с добром уживается зло”. У нас ня могуць рабіць культурна, чыста і акуратна. Як спявае Анатоль Ярмоленка ў сваёй знакамітай песні: “Гуляць дык гуляць”. Але добра, калі спяваюць прафесіяналы. Калі кожны нясе адказнасць за сваю “песню”, то і песня (чытай - зробленая справа) атрымліваецца добрай. А будаўнікі-рамонтнікі разумеюць гэтую песню па-свойму: “Ламаць дык ламаць”. У кожнага ж свая “песня”. І кожны “спявае”, як можа ці як яму хочацца. Але толькі не так, як трэба для людзей, для грамадства. У выніку атрымліваецца тое, што бачым: бардак вакол кожнай “песні”…

Вы можаце сабе ўявіць: урач-стаматолаг для таго, каб палячыць адзін зуб, вывернуў “наизнанку” ўвесь рот? У дадзеным выпадку аналагічная сітуацыя: для таго, каб адрамантаваць адзін дом, загрувасцілі (загромоздили) ўвесь двор. У нас жа прывыклі рабіць усё з размахам. На зялёным “дывану” паставілі вагон-бытоўку, далей – прасейваюць пясок, яшчэ далей – размешваюць раствор. Хаця ўсё гэта можна было б рабіць у іншым месцы і кампактна, толькі трэба было крышачку “пашурупіць” чарапной каробкай. Але гэта яшчэ “дробязі”. Гэта яшчэ кветачкі ў параўнанні з тым, што “ўмандзюхалі” кіроўцы трактароў.

(Пачатак. Заканч. на стар. 5)

# РАМАНТУЕМ-ПАСКУДЗІМ

(Закانч. Пачатак на стар. 4)

Гэта ўвогуле трэба быць апошнім ёлупнем, каб да такога дадумацца: замест таго, каб падвозіць будматэрыял да аб’екту па асфальце, які пракладзены па двары, заязджаюць па зялёнай зоне прама пад вокнамі жыхароў дома №8 (амаль праз увесь квартал), буксуючы і гэтым самым зразаючы раслінны слой глебы разам з дагледжанай травой. Ці яшчэ. Спуск з праезджай часткі дарогі да жылых дамоў, па якому ходзяць пешаходы, сталі мясіць коламі трактароў. Калі паглядзець збоку, то вакол дамоў зараз адны каляіны ды бруд на асфальце. Таму узнікае пытанне: чаму жыхары гэтых домоў павінны цярпець здзек гора-рамонтнікаў? Чаму яны павіны глядзець на гэткае паскудства? Менавіта, гаспадары, якія тут жывуць, вельмі руплівыя. Яны даглядаюць жылую тэрыторыю, робяць газоны, вырошчваюць кветкі. Стараюцца захоўваць чысціню. І не баяцца, калі гэта трэба, звяртацца са скаргамі ў ЖКГ, а то і да самога старшыні райвыканкама. Да чаго іншым разам ня “могуць дадумацца” жыхары другіх двароў…

Выходзіць, ня можа наш “доблесный рабочий класс” працаваць па-іншаму. Не навучыла іх савецкая школа. Значыць, трэба перавучваць! А як? А РУБЛЁМ!!! Вось калі той кіроўца, які зрабіў каляіну там, дзе яна не павінна быць, за свой кошт зробіць усё, як было, ці вылічуць з ягонай кішэні кошт той працы, якая была зроблена для навядзення парадку на гэтым аб’екце – абсалютна ўпэўнены, урок застанецца на ўсё астатняе жыццё. І дзесятаму закажа так не рабіць. А калі ўсё зыходзіць з рук, ніхто ні за што не адказвае, дык чаму ж не ламаць?!

Людзі ўсё яшчэ ня могуць уцяміць, што ў чысціні і добраўпарадкаванні горада ці населенага пункту ляжаць грошы кожнага з нас. І калі ня будзем берагчы тое, што зроблена, мы ніколі ня будзем жыць заможна. Ісціна простая, як кола!!! Што яшчэ трэба даказваць?

*Сямён Панізоўцаў*

# У МАГІЛЁВЕ НЕ ХАПАЕ МІЛІЦЫЯНТАЎ




Да прыкладу, у Дэпартаменце аховы Кастрычніцкага раёна горада не хапае амаль 30 чалавек радавога і сяржанцкага складу. Цалкам жа ўкамплектаваны Дэпартамент налічвае чатыры ўзводы агульнай колькасцю каля 120 чалавек.

“З-за гэтага людзі рэдка маюць магчымасць адпачыць і з цяжкасцямі выходзяць у сезонныя адпачынкі. За зверхпрацу нам ніхто нічога не даплочвае”, - наракае адзін з супрацоўнікаў аховы.

Не хапае ў горадзе таксама і ўчастковых. З-за нізкіх заробкаў супрацоўнікі міліцыі звальняюцца і едуць на працу ў Расію. Вядомыя шмат выпадкаў, калі міліцыянты едуць працаваць простымі будаўнікамі.

Трэба адзначыць, што ў Беларусі некамплект міліцыі складае амаль шэсць тысяч чалавек. Такая лічба была агучана прэзідэнту падчас сустрэчы з высокімі міліцэйскімі чыноўнікамі.

*spring96.org*

# ХОТИМСК: ВЛАСТИ ОТРЕАГИРОВАЛИ НА ОБРАЩЕНИЯ АКТИВИСТОВ «ГОВОРИ ПРАВДУ»

Хотимские власти наконец-то отреагировали на многочисленные обращения жителей улицы Пушкинская городского поселка и местных активистов «Говори правду, и организовали проведение ремонта дорожного покрытия на этой улице.

- Мы добивались проведения ремонта дорожного покрытия на этой улице на протяжении нескольких месяцев, – рассказывает депутат «Гражданского договора» в Хотимском районе Валерий Коронкевич. – Наш активист Петр Басейко собрал подписи местных жителей под обращением в райисполком, неоднократно ходил на прием к самым разным хотимским начальникам, обращался за помощью в КГК, но только сейчас местные власти соизволили отреагировать. Они организовали проведение ремонта дорожного покрытия по улице Пушкинской, не понимаю, почему этого нельзя было сделать раньше.

Безусловно, ремонт сделан фактически только косметический, власти ссылаются на то, что для укладки асфальтового покрытия на улице Пушкинской нету денег. Однако радует уже то, что после проведенного ремонта по этой улице хотя бы можно проехать и пройти, а раньше после дождей это сделать было весьма проблематично.

Немаловажно также, что местные жители смогли увидеть, что активисты «Говори правду» не останавливаются перед препятствиями и все равно добиваются решения проблемы. Думаю, это способствует укреплению нашего авторитета в Хотимске и регионе.

*Ирина Беганкина*

# БЕЛОРУССКИЙ ПИСАТЕЛЬ: СИТУАЦИЯ В СТРАНЕ - СЮЖЕТ ДЛЯ АНТИУТОПИИ



*Сергей Антонов*

**Книги Сергея Антонова разошлись в России тиражом в 250 тысяч экземпляров. Сам писатель живет в провинциальном городке на Могилевщине. В интервью Александру Буракову он рассказал, почему стал активистом оппозиции.**

**Три романа Сергея Антонова, выпущенные в 2010-2012 годах московским издательством АСТ в серии “Вселенная Метро 2033”, вошли в список 50 самых продаваемых книг в России. Один из них, “Темные туннели”, был переведен на немецкий язык и в начале 2013 года будет издан в Германии. В немецком издательстве выйдет и новый фантастический роман Антонова с белорусским сюжетом.**

**Сам писатель живет в одной из пятиэтажек бывшего военного городка в Быхове. Двадцать лет назад здесь базировался полк морской авиации, взлетали и садились стратегические бомбардировщики с ядерным оружием на борту. Именно сюда писатель возвращается каждый раз после московских презентаций своих книг. Здесь он ответил и на вопросы DW.**

*DW: Недавно в интернете появилась книга Антона Дыбова “Prezident L”, рассказывающая о последних днях белорусской диктатуры. Люди, знающие вас, говорят, что под псевдонимом Дыбов прячетесь вы?*

Сергей Антонов: Нет, автор не я. Я не стал бы так прямолинейно называть произведение. У меня есть роман “Стабилизатор. Минск-2041”, предсказывающий возможный конец диктатуры в стране, поэтому могла возникнуть путаница.

Но я не выкладывал свою книгу в Сеть, в начале следующего года она выйдет в Германии. На русском языке роман будет опубликован при поддержке издательского дома YAM Publishing из Саарбрюккена. К сожалению, на родине не удалось найти издателя по понятным причинам.

*- Получается, что одновременно два автора написали произведения в жанре политической антиутопии. Это новый белорусский литературный тренд?*

- Возможно. И это плохо. Если творческие люди независимо друг от друга мыслят похожими категориями и показывают будущее страны совершенно нерадужным, это плохой знак. Сама нынешняя белорусская ситуация просто просится в жанр политической антиутопии.

Я написал роман о том, какой вижу страну в будущем. То есть все, что у нас сейчас происходит, довел до абсурда и показал, что будет в 2041 году, если ничего не изменится. Этот абсурд может стать явью. Вот, например, когда-то в СССР велась борьба с тунеядством. А сегодня премьер-министр Беларуси Мясникович заявляет, что тоже собирается этим заниматься. Мы возвращаемся в прошлое, и общество воспринимает это совершенно спокойно.

*- Привлечет ли белорусская политическая антиутопия читателя? Насколько интересна в этом смысле страна для литераторов?*

- Я использую белорусские реалии в своих фантастических произведениях серии “Метро 2033”. Например, на станции метро “Белорусская” у меня ничего не работает, а руководство, пользуясь выгодным месторасположением станции, всех шантажирует, просит в долг деньги и не возвращает. Люди, читая это, видят, конечно, иронию. Но, по сути, россиянам такие сюжеты не так интересны, их по достоинству оценят только белорусы.

Ситуация изолированной от окружающего мира диктатуры давно стала литературным сюжетом. Всегда писали об этом, и ни я, ни Дыбов не изобретаем тут ничего нового. Мне кажется, для белорусов сегодня важнее самим разобраться со своим литературным наследием, знать своих знаковых людей. Я пишу по-русски, но сейчас открываю для себя белорусскоязычную литературу. А недавно я был поражен тем, что на свою беду даже не знал, кто такой Лявон Вольский (белорусский рок-музыкант - Ред.).

*- А как вы стали московским писателем?*

- Я коренной быховчанин. В 1992 году окончил Могилевский технологический институт и попал по распределению на быховский овощесушильный завод. Но работы там не было, шли сокращения, а вакансии были только в редакции местной районной газеты. Так я стал сначала журналистом, а потом уже попробовал писать рассказы.

*(Начало. Оконч. на стр. 7)*

# БЕЛОРУССКИЙ ПИСАТЕЛЬ: СИТУАЦИЯ В СТРАНЕ - СЮЖЕТ ДЛЯ АНТИУТОПИИ

*(Оконч. Начало на стр. 6)*

Лет пять назад в Москве появилось и некоторое время просуществовало немецкое издательство "Амадеус", в котором вышли мои первые фантастические рассказы. А позже набрался смелости и основал свою серию "Вселенная Метро 2033" Дмитрий Глуховский. По его замыслу участвовать в проекте должны были не профессиональные авторы, а фанаты фантастики. Но профессионалы были необходимы для старта проекта. Был объявлен конкурс, и, к моему удивлению, серию начали Владимир Березин и я.

*- Вы являетесь членом белорусских писательских организаций?*

- Нет. Я являюсь лишь членом Белорусского союза журналистов. Когда меня только начали печатать в Москве, я подал заявку на вступление в Союз писателей Беларуси (СПБ). Отправлял туда свои книги, у меня даже были две рекомендации, как и положено. Но мне отказали.

Совсем недавно я зашел туда, чтобы забрать на память свои первые книги. И меня удивило, что там много комнат, но никого нет на рабочих местах, и только сидел в одиночестве председатель СПБ Николай Чергинец. Он спросил, не хочу ли я еще раз попробовать подать заявку на вступление. На что я ответил, что, может быть, это и нескромно, но тогда вы посчитали, что союз писателей для меня - это много чести. А сейчас я считаю, что я для союза писателей - много чести.

*- Вы не скрываете того, что уже 15 лет являетесь членом оппозиционной Партии БНФ. Это как-то влияет на вашу жизнь?*

- По выражению одного человека, я для быховских властей - как красная тряпка для быка. С одной стороны, известен в России, а с другой - непримиримый противник местной власти. На каждое значимое событие в Быхове откликаюсь статьями в независимых СМИ.

Как творческий человек, я не могу не быть против этой власти. Ну и потом, по сути, моя партия - это партия мечтателей. То, что она хочет, - это идеал, которого мы, быть может, и не достигнем. Но мне нравится бороться за идеал, как это делали Че Гевара, Кропоткин или Бакунин.

***Беседовал Александр Бураков, "Немецкая волна"***

# ОКОЛО 30% БЫТОВЫХ ПРЕСТУПЛЕНИЙ В МОГИЛЁВСКОЙ ОБЛАСТИ СОВЕРШАЮТ ЖЕНЩИНЫ



Женщины всё чаще становятся инициаторами бытовой преступности. Об этом сообщил заместитель начальника управления охраны правопорядка и профилактики УВД Могилёвского облисполкома подполковник милиции Александр Петрусевич. «Чаще всего насилию в семье по-прежнему подвергаются женщины, — говорит он. — Однако если 10 лет назад так было в 90% случаев, то теперь около 30% бытовых преступлений приходятся на долю слабого пола. Причём нередко эти правонарушения относятся к категории особо тяжких. В первую очередь это тоже связано с употреблением спиртных напитков».

По словам Александра Петрусевича, за 10 месяцев текущего года количество преступлений, совершённых в сфере семейно-бытовых отношений, в регионе по сравнению с аналогичным прошлогодним периодом сократилось с 486 до 291. Однако проблема бытовой преступности остаётся по-прежнему острой. Так, в области отмечается рост количества умышленных убийств в указанной сфере с 12 до 14, а фактов причинения тяжких телесных повреждений — с 32 до 41. Возросло и число случаев причинения менее тяжких телесных повреждений — с 10 до 18.

## Мемарыяльную дошку памаці механізатара СВК «Кудзін» Васіля Кацяшова ўстановяць на адміністрацыйным будынку кааператыва

Мемарыяльную дошку памаці механізатара СВК «Кудзін» Васіля Кацяшова ўстановяць на адміністрацыйным будынку кааператыва ў Бялыніцкім раёне. Пра гэта паведаміла старшыня прафсаюзнага камітэта сельгаспрадпрыемства Тамара Ларкова.

Сэрца механізатара СВК «Кудзін» Васіля Кацяшова перастала біцца ў маі 2010 года. Бяда здарылася па шляху ў поле, куды мужчына ехаў на трактары працаваць. Сціплы, надзвычай руплівы земляроб пакінуў аб сабе ў калектыве гаспадаркі светлую, удзячную памяць.

Невыпадкова па ініцыятыве старшыні праўлення кааператыва Адама Сачыловіча было прынята рашэнне аб заснаванні штогадовай прэміі імя Васіля Кацяшова ў памеры $1 тыс. для лепшых працаўнікоў гаспадаркі. Першым лаўрэатам стаў шафёр Анатоль Гарбузаў. Праз год адну на дваіх узнагароду атрымалі механізатары Дзяніс Астаф'еў і Віктар Старалаўнікаў.

# ПО КАРТОФЕЛЮ БЕЛОРУСЫ ВПЕРЕДИ ПЛАНЕТЫ ВСЕЙ,

## но не будем спешить радоваться

*(Оконч. Начало на стр. 3)*

как отсталой слаборазвитой страны. Дело в том, что в мировой агроэкономике картофель традиционно считается сельскохозяйственной культурой для бедных. Можно вспомнить, как в 2008 году ООН объявила Международный год картофеля, назвав его «основным источником энергии для большей части бедного населения планеты». Высокое потребление картофеля в той или иной стране свидетельствует об архаичном сельхозпроизводстве, недостаточном питании населения, отсутствии выбора и доступности других продуктов.

Только один факт для подтверждения данного вывода. В Беларуси основной объём картофельного урожая (доходит до 90%) приходится на личные подсобные хозяйства, огороды и дачные сотки. Так называемый общественный сектор — сельхозорганизации и фермеры — производят незначительную часть картофеля в стране. Именно поэтому следует говорить об архаичном сельхозпроизводстве, хотя со своими 800 кг мы и занимаем первое место в мире.

Сказанное позволяет судить о ситуации в целом. На местах же, как известно, положение бывает намного хуже, чем на общегосударственном уровне. Это легко проиллюстрировать на примере Климовичского района.

Все последние годы выращивание картофеля в районе неуклонно снижалось. Чтобы обеспечить потребности горожан, заготовители райпо ездили за картошкой в Гомельскую область. И вдруг в 2011 году климовичские аграрии продемонстрировали фантастический рост производства — в 5,4 раза. Но в реальности результаты оказались не такими поразительными, собрали 1405 тонн, отсюда и пятикратный рост по сравнению с 2010 годом. Нынешней осенью урожай чуть больше, по данным на 1 ноября —1454 тонны. Кстати, в рекордном для Беларуси 1993 году сельхозорганизации Климовичского района произвели 5485 тонн картофеля. Так что сейчас гордиться особо нечем. Лучше задуматься о том, почему климовчане, впрочем, как и вся страна, в наступившем XXI веке утратили достижения двадцатилетней давности.

***ИГОРЬ БЫЧКОВ***

# БЯЛЫНІЧЫ: ШКОЛЬНІКАЎ ПАКАРАЛІ ЗА АДМОВУ АД ПРЫМУСОВАЙ ПРАЦЫ

Навучэнцы сярэдняй школы № 1 імя Мікалая Пашкоўскага гарадского пасёлка Бялынічы, якія адмовіліся ў кастрычніку гэтага года выязджаць на сельгаспрацы па ўборцы бульбы ў гаспадаркі раёна, павінны ў другой навучальнай чвэрці трыццаць пяць дзён аддзяжурыць у сваіх класах, ажыццяўляючы іх прыборку. Адпаведнае рашэнне прыняла адміністрацыя Бялыніцкай СШ № 1, паведаміў адзін з бацькоў пакараных вучняў.

“Калі ў кастрычніку гэтага года вучняў школы на працягу двух тыдняў пачалі адпраўляць на ўборку бульбы ў гаспадаркі раёна, прычым працавалі дзеці без усялякай аплаты, я сказаў сыну, што ён можа не ездзіць на сельгаспрацы, - распавядае бацька аднаго з вучняў. – Дзеці ў школе павінны вучыцца, а не працаваць задарма. Тым больш, што сын быў пасля хваробы і мог захварэць зноў. Мы папярэдзілі яго класнага кіраўніка, што сын вучыцца будзе, а на прымусовыя сельгаспрацы не паедзе, бо толькі нядаўна хварэў, ды і мы з’яўляемся прынцыповымі праціўнікамі ўсялякай прымусовай працы. Адразу ніякіх санкцый з боку кіраўніцтва школы не было, бо сын вучыцца добра, ды й за што караць? Аднак ужо ў гэтай чвэрці яго падазвала класны кіраўнік і сказала, што ён павінен трыццаць пяць дзён аддзяжурыць па класу, ажыццяўляючы яго прыборку, гэткім чынам ён пакараны за адмову ад удзелу ў сельгаспрацах. Па словах класнай кіраўніцы, адпаведнае рашэнне прыняла адміністрацыя школы. У 8 “А” класе, дзе вучыцца мой сын, такое ж пакаранне панёс яшчэ адзін вучань, бацькі якога адмовіліся адпраўляць яго на прымусовыя сельгасработы. Ёсць пакараныя і сярод навучэнцаў іншых класаў Бялыніцкай СШ № 1. Прозвішча наша прашу не ўказваць, сын не хоча, бо баіцца, што пасля гэтага ў яго могуць узнікнуць праблемы ў навучанні”.



Сумна, што сеяльнікі “разумнага, добрага, вечнага” з бялыніцкай СШ № 1 бачаць сваю задачу ў выхаванні пакорлівых людзей, гатовых выканаць любы, самы бязглузды, загад, а не ў тым, каб даць сваім вучням добрыя веды і выхаваць сапраўднага чалавека, гатовага адстойваць свае перакананні і правы…

магілёўскі Выбар

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас рэдакцыі: Магілёўская воб, аг-к В. Машчаніца, вул. Савецкая, д.4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Міхайлаў Іван Барысавіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 05.12.2012 г. у 12-00.